УЛАДЗІМІР МАРУК
НАРАДЗІУСЯ У 1954 ГОДЗЕ
У ВЁСЦЫ ГУТА
ГАНЦАВІЦКАГА РАЁНА.
ВУЧЫУСЯ У МАГІЛЁУСКІМ
БІБЛІЯТЭЧНЫМ ТЭХНІКУМЕ.
СКОНЧЫУ
ФІЛАЛАГІЧНЫ ФАКУЛЬТЭТ БДУ
ІМЯ У. І. ЛЕНІНА.
ПРАЦАВАУ КУЛЬТАСВЕТРАБОТНІКАМ
У ГАНЦАВІЧАХ,
НАСТАУНІЧАУ.
ЦЯПЕР —
КАРЭСПАНДЭНТ
ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА».
ВЕРШЫ УЛ. МАРУКА
ДРУКАВАЛІСЯ
У РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ПЕРЫЁДЫЦЫ.

ПЕРШАЯ КНІГА ПАЭТА

Уладзімір
Марук

# ЗОРКІ
# Ў КРОНАХ

**Вершы**

**МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1982**

* * *

Штодзённа прыкмячаю,
А бачыцца іначай,
Як лапік малачаю
Скупой слязою плача.

Сыходзіць стрыжань лета,
Касец бусла прагоніць,
Шумлівы, як падлетак,
Узлесак б'е ў далоні.

Яшчэ на грывах коні
Туман за рэчку носяць,
Яшчэ не раз, як сёння,
Праясніць неба просінь.

Што вечар не заслоніць,
Набуду, здзейсню, страчу...
І будзе ўсё, як сёння,
І будзе ўсё іначай.

* * *

Край лясны,
Зеленабровы,
Гаманлівы край.

Зноў вясны
Пачую словы,
Завітаю ў гай.
Спеў вясёлы.
Пах смаловы.
Вецер мох скубе.
Вабіць кволы
Ліст кляновы
Сонца да сябе.

Цвет красуе.
Не бяздумна
Загулі камлі.
Бачу, чую,
Як разумна
Здаўна на зямлі.

## МОВА

Не пабілі цябе капытамі,
І не вычарпаў шолам цябе.
Мы па-свойму жылі, засявалі.
Размаўлялі па-свойму ў сяўбе.

Гандлявалі ды грэбвалі намі,
Як апошнімі ў свеце людзьмі.
Пан валодаў палямі, лясамі,
Сваёй мовай валодалі мы.

Ускіпалі і гаслі пажары,
Праглынала няволя гады,
Праціналі пакутныя мары
Стрэмкай набрыдзі, стрэмкай брыды.

Ды заўсёды такою высокай,
Недасяжнай чужынцам была
І крыляла ў гвалтоўным паўзмроку
Зоркай вечнага ў душах святла.

Скрозь напятыя лукі і жылы
Над пакутна-маркотнай зямлёй
Неадольныя біліся крылы
Беларускае мовы маёй.

## СНЕГ У БРЭСЦЕ

Як цяжка снег кладзецца на далонь,
А думаеш, як добра, што нарэшце
У нашым ціхім пагранічным Брэсце
Зіма свой белы разліла агонь.

Бялей зямлі, здаецца, не прысню,
Чысцей душы не буду мець ніколі...
Ды нечакана — нервы ўсе аголіць
Усплёск крывавы Вечнага агню.

## РУКІ МАЁЙ МАМЫ

Пасланы чысты абрус на стале.
Мама рукі кладзе на абрус.
Яны паспытаны сапраўдным лёсам
І вымыты нашай палескай зямлёй...
Цяпер ляжаць, як узор дасканалы,
На белым і выгладжаным абрусе.

## ГРЫБЫ НА СНЯДАНАК

Дрыжыць асіны ліст
Над зыркаю рабінай,
І сонца — жоўты ліс —
Дыханнем грэе спіну.

Мне ж ганьбіць не з рукі
Сябе і лес кашлаты:
І лезуць маслякі
У кош, як небажаты.

Да снедання яшчэ
І лесам надзівіцца.
І ліпне да плячэй
Сасноваяігліца.

Ласіныя сляды.
Жаўрук нястомна свішча.
Дубы кладуць гады
Ў камлі і карнявішчы.

Гайдаюцца вярхі,
Не ведаючы стомы...
...Чакаюць сваякі,
Калі прыйду дадому.

* * *

Доўгія цені вячэрнія
Босых не пудзяцца ног.
Рэчку, змялелую ў чэрвені,
Ліпень напоўніць не змог.

Неба абшыта карункамі
Лесу, з якога бягу...
Сэрца
жывымі малюнкамі
Я наталіць не магу.

## БАЦЬКУ

Кустоўе. Паарана пожня.
Пачата сцежка ў два сляды.
Ты усміхаешся прыгожа,
Такім здаешся маладым,
Каб не пабеленыя скроні...
І колькі ходзім па зямлі,
Але такімі, як сягоння,
Яшчэ ніколі не былі.

* * *

Край вытокаў. У лясах палескіх,
Ля крыніц, ля векавых імшар
Выраслі дзяўчаты, як пралескі,
Здзейснілася столькі нашых мар.

Тут для нас становіцца падзеяй
Кожная драбнічынка жыцця,
Ад якой і на душы чысцее,
Ад якой —і крок да адкрыцця.

* * *

Люблю дарогу палявую,
Наўзбоч прыбрануюў авёс,
Дзе вецер з цішаю смакуюць
Плач недагледжаных калёс.

* * *

Выплыў туман з-за ваколіцы,
Туліць да вёскі шчаку,
А праз хвіліну здаволіцца,
Зноў заплыве у раку.

І чалавеку на поплаве
Будзе выразна відаць,
Як велізарнае, цёплае
Сонца залье сенажаць,

Як разлятаюцца воблакі
Лёгкія, бы матылі,
Як праясняюцца воблікі
Вёскі, радзімай зямлі.

* * *

Тады адчуў, які ён цяжкі,
Жыцця камель, што я цягну,
Калі суседу дзеду Сашку
Прынёс тры дошкі на труну.

Ужо святлела на падворку.
І сёння памяць беражэ:
Ніхто не мог пачаць гаворку,
А мне было яшчэ цяжэй
Глядзець у вокны гэтай хаты,
Што часта песціла мяне,
Быў я нібыта вінаваты,
Што крыж чакае пры сцяне,
І цёткі стомлена галосяць...
І той цяжар мяне хістаў,
Нібы камель свой,
падалося,
Дзед на маё плячо паклаў.

* * *

Паржавелыя каскі і цэшкі,
І гарматныя збіты кліны...
Гэта ўсё незнаёмыя сцежкі,
Пааранымя сцежкі вайны.

Абліваюцца сонцам, паводкай,
Дні абновы вясеннія ткуць,
Ходзяць промні шчаслівай паходкай
Па нясмелым і кволым лістку.

І як добра разважыць, што гэта
Маладая зямля між дарог
Адваёвана, ўзнята, апета,
Каб і я зберагчы яе мог.

## БЕЛАРУСЬ

Людзям кожная зорка ўначы
Аддае і цяпло, і святло.
І ніколі да дна не сцячы
Той крынічцы, што поіць сяло.

Халадок пастарэлых дуброў
І зялёныя пасмы ракіт...
Над табою, радзіма бацькоў,
Праясніўся бязмежны блакіт.

Пэўна, вельмі любіў ён палі,
Паплавы, сенажацяў абрус,
Той, хто першым назваў на зямлі
Добрым імем цябе — Беларусь!

## ВЯСНА

Між сосен сіні дым радзее,
У светлым небе — птушак звон.
На сэрцы кожная падзея
Пакіне след, што ўсім відзён.
Аднойчы цеснай стане хата.
Разводдзе рэк, разводдзе слоў...
Бярозы белыя халаты
Па пояс выбрадзілі зноў.
Як у вачах, у небе чыста:
Ніводнай хмаркі.
Не знарок
Нясмелы, клейкі і празрысты
З пупышкі выглянуў лісток.

* * *

Як толькі воблакі кране
Ледзь акрыялае дасвецце,
На вернасць першай баразне
Жаўрук у небе паклянецца.

Вышэй магутных самых крон
Ён песню вернасці заводзіць...
Таму і не сівее скронь
У пастарэлага стагоддзя.

* * *

Дачакаюся ранніх вішань.
Ціха весніцы прарыпяць,
І адчую, што восень бліжай,—
Так і годы мае ляцяць.

Пацалункі людзей шчаслівых,
Горкі хмель, горкі пыл дарог —
Як адлівы і як прылівы
Акіяна маіх трывог.

А цяпер вясна зелянее,
І дадому ляцяць шпакі...
Берагу між надзей надзею
Жыць, як людзі, і жыць — вякі.

* * *

Ёсць шлях наперад і назад.
Таксама — вера і невер'е:
Адна — што выручыць з-за крат,
Другое — моўчкі твар адверне.

Ёсць непахіснасць — да магіл,
І нерашучасць першай схваткі,
Недаацэнка кволых сіл,
Пераацэнка хісткай кладкі.

Мне ж за таго находзіць страх,
Хто распускае моцна пер'е,
І не пазнаеш па вачах —
Ад веры ён ці ад невер'я.

## 9 МАЯ

Мора жытняе. Між хваль —
Шлях вайны, камбеда...
На медаль прылёг медаль
На грудзях у дзеда.

Чуе дзед чысцюткі звон
Медалёў. Адразу:
«Вы чаго?» — пытае ён.
Ды няма адказу.

Ля знявечанай сасны
Дзед прысеў на камень,
Чуе: памяць б'е ў званы,
Слова просіць памяць.

* * *

Забытае полымя макаў
Не хутка ў садку дагарыць.
Ля хаты бы нехта заплакаў
Ці нехта пачаў гаварыць.

І я расчыняю акенца.
На лаўцы бабулькі сядзяць,
Клянуць «распраклятага немца»,
Да смерці бабуль не суняць.

І слухаю, слухаю сэрцам:
Бабулькі пачнуць гаравaць,
Як цяжка было не памерці,
Як лёгка было паміраць.

Маўчу. Бо ад праўды лядачай
Мой голас надоўга засмяг...
Між яблынек полымя макаў,
А горача сэрцу ў грудзях.

* * *

Зямля мая. На травы
Шанцуе, не ўкасіць.
Ігліцы пах гаркавы
Вякам не перапіць.

Іду дарогай ранняй,
Дзе нехта йшоў раней.
І першых промняў ззянне
Здзіўляе і мяне.

А тут вось на палянку
Паглядвае крадком
Старэнькая зямлянка —
Апошні нечы дом.

І я стаю, здзіўлёны:
І тут вайны сляды,
Прыхіленыя кроны
Ад даўняе бяды.

А лес не адгукнецца
На «Смірна!». Толькі ўслед
Перасмыкнецца вецце...
Такі трывожны свет.

* * *

Па каліўцу багацце на зямлі,
І шчасце, і пакутлівае гора.
Тут звонкае маленне завялі
Раёчкі пчол на раннім медазборы.

Паміж узгоркаў гэтых і далін
І сонца над усходамі шчыруе.
Па аднаму выстройваюцца ў клін
Буслы ў сваю дарогу немалую.

Па кропельцы, драбніцы, па снапку
Збіраецца вялікае багацце.
Руплівы век, падай і мне руку —
Твая ж я кропля, бойся кроплю
страціць!

## НАЧНАЯ ЗМЕНА

Трактар сціх. Халодае ралля.
За дарогай над кастром высокім
(Прыплылі, ціхмяныя, здаля)
Грэюцца настылыя аблокі.

Мокрыя ад поту і дажджу,
Твары нашы цёпла бранзавеюць...
Я туды з трывогаю гляджу,
Дзе ў снягі ўбіраецца завея.

А ў аблоках зорка пагарыць,
Пагарыць, схаваецца, растане.
З-за высокай дзікае гары
Ступіць дзень, як дзіўнае насланне.

* * *

Не, яшчэ не зведана Палессе.
Вунь сышліся раннія грамы,
Дзе заўжды красуюцца Алесі
І крыніцы б'юць сярод зімы.

Як крыніца смагу наталяе,
Помнім і ў далёкіх гарадах,
Бо зямля ніколі не губляе
Першародны свой крынічны пах.

А ў камлі шырэе дуб на ўзлессі,
Людзі рады веснавой сяўбе...
Не, яшчэ не зведана Палессе,
Як і мы не зведалі сябе!

* * *

На росах прамяні заскачуць скора,
Хоць халадком шугае з азярын.
Сяло з сялом вядуць перагаворы —
Іх пачынаюць пеўні на зары.

Пяшчотны подых раніцы руплівай
Страсае кроплі золкае расы.
Прыходзіць дзень да маладзенькай слівы,
Каб аніхто не ўкраў яе красы.

А пеўні тыя, абудзіўшы ранне,
Няўмольны час зазначаць неўпрыкмет.
І чалавек, і кожны птах устане,
Каб зноў здзівіцца, як змяніўся свет.

* * *

Непаслухмяны твой жыхар, Прырода.
Я першабытнасць вывучыў даўно.
Ці не з тваёй нявыказанай згоды
Мне у Сусвет адкрылася акно.

Буркоча магма. Глыбіня зямная
Пагрозліва папыхвае дымком.
Я ведаю — глыбіні распазнаю,
Я і Сусвет наведаю, як дом,

Дзе вокны ўсе расчынены ў прастору,
Каб чуўся голас ранняе вясны.
...І стала першабытнасць мне апорай,
Бо шлях у неба — гэта шлях зямны.

* * *

Акружана хаціна
Ні па чыйму загаду
Вялікаю гадзінай —
Цвіценнем саду.

Навокал гэтак бела
І цёпла гэтак.
Гляджу — пчала зляцела
Да лепшых кветак.

Гуляюць шумна дзеці,
Іх час не томіць.
Я лашчу вішні вецце,
Хай не сароміць,

Што спраў заўжды багата...
Дарогі — ззаду.
Такое сёння свята —
Цвіценне саду!

* * *

Тут гэтак хораша і свежа.
І нас заўсёды вабіць лес,
Дзе пні, як здані, каля сцежак
І дух былінны ўваскрэс;

Дзе салавей, нібы разбойнік,
Напевам вецце калыхнуў,
Дзе да крыніцы збегся хвойнік,
Як хлапчаняты да агню.

Струмень пад корчыкам бруіцца,
Пляце зямныя паясы.
...Дзе толькі чыстыя крыніцы —
Растуць, здзіўляючы, лясы.

* * *

Мой сад уночы поўня апраменіць.
І не відаць, што тоіць далягляд.
Я толькі знаю — ёсць святло, і цені,
І поўня, што вартуе ноччу сад.

І ходзяць цені, быццам чужакі,
Ля кожнай яблыні і кожнай грушы...
І цемра — свет. Ці ёсць яшчэ такі,
Каб маё сэрца сёння так узрушыў?

## ПРАЛЕСКІ

У пралесак цёплая натура,
Бо прыносяць першае цяпло
Пасля доўгай, галасістай буры
У маё палескае сяло.

Рэчышчы змывае паўнаводдзе.
А яны імгненна зацвілі,
Як дзяўчаты нашы —
ў карагодзе,
Як краіна наша —
на зямлі.

* * *

На возеры шырокім —
Чым далей, тым глыбей.
А бераг згледзіць вока —
Вяслу і нам лягчэй.

Над спуджанаю гладдзю
Слаіцца зноў туман.
Вяслуй, бо цемра ўкрадзе
Той бераг і будан.

І месяц, бы для смеху,
Над намі пастаяў.
І толькі нам і веку
Не да яго праяў.

Яшчэ узмах. Шанцуе
На зоркі і пясок.
І хуткі сон ратуе
Ад едкай цемры зрок.

* * *

Настойліва дзень адыходзіць,
І холад на дрэвы садзіцца.
На першым нязгойсаным лёдзе
Няма за што ветру ўчапіцца.
Зара прылягла за пагоркам.
Спакойна і ціха наўкола.
І толькі адзіная зорка
Папіхвае вечнасці кола.

* * *

І лістота стамілася падаць.
Варухнулася нешта ў душы,
Ці апошняя, з восенню, радасць,
Ці туга, што стагі павяршыў.

Калі радасць — дык гэтак няпэўна
Прабіваецца праз лістапад
Галаском маладжавага пеўня
І патроху сыходзіць на спад.

Як туга — дык чаму невыразна
Аклікаюць на лузе стагі,
І лістотай прыкрылася лазня,
Узвышае рака берагі?

Непрыкметна кладзецца пад ногі
Мяккасць лугу і пругкасць шашы...
І няўжо ў прадчуванні дарогі
Варухнулася нешта ў душы?!

* * *

Над вадою звісала,
Сохла хустка твая.
Ты ж сама з ручая
Ваду з плёскатам брала.

Ціха восы гудуць.
І траву ля лагчын
Дзевяць дужых мужчын
У пракосы кладуць.

А дубы — прамаўчаць,
Хваля блісне, як шкло.
Сёння гэтак пякло...
Тваіх рук не суняць...

* * *

Вось і сонейка запала
У пажухлую траву.
Птушка юркая схавала
У гняздзечка галаву.

Цемры вусце. Сліў аскома.
І нічога акрамя...
Толькі нехта кліча: «Тома!»
А яе нідзе няма.

* * *

А тры кветачкі — на вярбіне.
Па каторай тужыцца мне?
Ці па гэтай, што слоўца кіне,
Слоўца кіне — душу ўскалыхне?

Ці па той, што заплюшчыць вочы,
Каб слязу ў сабе патушыць,
Каб душу маю, як захоча,
Тым, нявыплаканым, варушыць?

Ці па той, ад якой нічога
Я пазнаць па вачах не змог,
Да якой прыбрана дарога
У асот і сухі быльнёг?

І даўно ўжо вятры ў даліне,
Восень. Потым зіма міне...
А тры кветачкі — на вярбіне.
Па каторай тужыцца мне?

* * *

Ты чакала, я знаю,
На бяскрайняй зямлі
І цвіла сярод маю,—
Побач кветкі цвілі.

І духмяна хмяліла,
І вяла за сяло.
Помніш, дзе мы хадзілі,
Сколькі сцежак было!

А цяпер прадчуванні
Адышлі назаўжды,
Тыя сцежкі расстання
Нас прыводзяць сюды.

* * *

Да віно ж, віно зеляно
Не пілі мы з табою разам.
А такое было віно! —
Захмяліла б яно адразу.

Сад зялёны, вішнёвы сад...
Там зязюлька даўно не кукуе.
Але я невыказна рад,
Што цябе, як зязюльку, чую.

І ляціць, ляціць сакалок,
Зноў ляціць за твае вароты,
Але там на дзвярах замок,
Але там у акне — журбота.

Лепш у памяці абуджу
Тую песню, што ты спявала:
«Восем дзетачак нараджу,
Можа, й дзевяць, як будзе мала!»

Ды ўжо сонца пайшло за бор.
Толькі недзе ў ляску за полем
Чую песню тваю, як дакор
Мне, нявольніку тваёй волі.

Сокал б'ецца ў тваё акно
І не чуе твайго адказу:
«Да віно ж, віно зеляно
Не пілі мы з табою разам!..»

* * *

Як пайду я дарогаю,
Не дадому пайду...
Зноў ідзеш, басаногая,
Да ракі па ваду.

Вечарэе. За вёскаю
Адгарае зара.
П'ю ваду з адгалоскамі
Ад ракі, ад вядра.

Ой, зарэчча, зарэччайка,
Не пытайся, як ёсць...
Палахлівыя плечыкі,
Пацалунак, як госць.

* * *

З-пад сябе выскубвае траву
Ветрам растрывожаная восень.
Воблакі удалячынь завуць
Тое, што ад лета засталося.

Зёлку, што забылася пары
І сабе сяброўку вызірае.
Птушку, што садзіцца на гары,
Бо, напэўна, вельмі ўжо старая.

Нават кветку ў вузенькім акне,
Што жыве пад сто гадоў на свеце.
І дзяўчыну, што дала не мне
Самы лепшы успамін аб леце.

* * *

Не знойдзеш тут грыбоў,
Хутчэй сцяжыну згубіш.
Выглядвай шлях дамоў,
Нервова сцяўшы зубы.

А прыцемак, як воўк,
Слядок абнюхаў свежы.
А дзяцел недзе — «тоўх»,
Здалося — роў мядзведжы.

Лес каранёў вузлы
Пазвязваў на дарозе.
А я, такі малы,
У ночы на парозе.

* * *

Ручаі збягуць. На дасвецці
Распачне, як і год назад,
Падымацца тугое веццё,
Распрамляцца да сонца сад.

Над разбітай дарогай вецер
Праляціць і яго не міне.
Вішня першым маленькім суквеццем
Сустракае сягоння мяне.

Мой вясенні пагляд залагодзіць
Дзеўчанё, што да плачу рада,
Бо разважліва сонца ходзіць
Каля бацькавага саду.

## У ПАХОДЗЕ

Брадамі выйдзем на Арэшніцу,
Паўз лес да межавых разор.
І гарадскую песню весніцы
Праводзяць з радасцю на двор.

І на шастку каўбас паменшае.
І гаспадыня не засне,
Пра ўсё — і большае і меншае
Ў жыцці — размову распачне.

А ноч прамчыцца над узгоркамі,
Калі пачне яна казаць,
Што і салодкаю, і горкаю
Была зямлі яе сляза.

«Ды й што казаць! — рукой
заслоніцца,—
Усё ж вядома, не сакрэт...»
Чырванагрывы ранак гоніцца
За чарнабровай ноччу ўслед.

## ПОМНІК НА ПАЛЯНЕ

Выспявае паляна,
Ажно хмар не відно.
Дрэмле ціша-спадманак,
Як прад самай вайной.

І здаецца, што зараз
Распачне разварот,—
Стракатлівы з-за хмары
Праляціць самалёт...

Ды не ломіцца вецце,
Кулі кветак не рвуць.
Нагуляліся дзеці,
Прылеглі на траву.

Толькі дрэвы шапочуць,
Хоць мінаюць гады,
Быццам выказаць хочуць,
Як маўчалі тады.

* * *

*Памяці дзеда Васіля*

З табой сядзім на ўслоне.
Ты ў гэтай хаце рос.
І ты свае далоні
Не абярог ад слёз.
Вось і сягоння чую:
«Было яно... вайна...»
І я ўяўляю тую
Часіну, як адна
Цябе сасна чакала,
Салдата, на мяжы...
Бярозкі пассякала
Суседка на крыжы.
І ноч шчаку туліла
Да зраненых грудзей...
Ты ўжо маўчыш. А сіла
Душы тваёй вядзе,
Вядзе мяне няўхільна
Праз твой няпросты лёс,
Праз твой спакой магільны
І шум сівых бяроз.

І ў памяці, і ў славе
Мы, як адно, гарым,
Мы — лепшае ў дзяржаве —
Старое з маладым.

## ПАВОДКА

І ў сны няпрошана прыходзіць
Сярод былых нясмелых кроз
Малы і смелы параходзік,
Што нас да Прыпяці давёз.

Там завіхалася паводка.
Па вокны мокрае сяло.
Была ў цане любая лодка,
Жыццё бясцэннае было.

І давяршала шал вясновы
Вясёлка ранняя. І ў час
Жыццё закладвала асновы...
Садзіўся бусел каля нас.

* * *

Не! Не рэха гукала,
А стагналі грамы,
Гэта многа ці мала —
Ад зімы да зімы.
Але станецца гэтак,
Што зімой загрыміць.

Мабыць, тупае лета
На двары за дзвярмі.
Не! Не рэха, я знаю,
А сваволяць грамы.
Моўчкі лета шукаю
На двары у зімы...

* * *

Сяльцо за рэчкаю блукае.
Маторка сцішана гудзе.
А лебедзь зноўку пачынае
Пластычны танец на вадзе.

Заглянуць вокны ў мае вочы,
А я пагляд адводжу ўбок,
Дзе абяцае добрай ночы,
Вуркоча позні галубок.

А тут і вуліца, як стужка,
Яшчэ прымятая з вясны.
І цемра спуджанаю птушкай
Глядзіць у два мае акны.

І я нанова прывыкаю,
Як ноч пад вокнамі ідзе,
Як за ракой сяльцо блукае
І за сабой мяне вядзе.

## У БАЛЬНІЦЫ

Даюць пантапон. Забываю
Вялікі, нястрыманы боль.
Здаецца, спакой набываю,
Як гэтыя сцены і столь.

І мне ў гэтым белым і ціхім
Прасторы бальнічнай сцяны
Памрояцца крылы бусліхі,
Што цэламу свету відны,

Што рады вялікаму свету
За чыстага неба віры,
Дзе можна дзяліцца сакрэтам
З усімі, хто сёння сябры.

Ды скончыцца лёгкая мроя,
Як сціхне ў крыві пантапон,
І боль завалодае мною
На многа нячетлівых дзён.

Ды ўсё ж мне здаецца парою:
І самай спякотай, і ў золь
Бусліха нясе над зямлёю
Мой боль. І за іншага боль.

## ЗОРКІ ПЛЫТАГОНА

Там і сонца, і вецер,
Дзе жыве плытагон.
Густалістае вецце —
Залаты парасон.

І вянкі на купалле,
Цяжкіх хваль перабор...
Столькі год мы шукалі
Самых вогненных зор.

Плыт-нявольнік імкліва
Абганяў ветравей,
Зоркі ззялі на дзіва
Усё ярчэй і ярчэй.

Паварот. У цячэнні
Гаснуць зоркі на страх.
...Столькі ў зорак адценняў,
Колькі ў нашых вачах.

## ПАДКОВА

Прачынаюся з тым выпадковым,
Што прыходзіць знарок па начах,
Калі дзівішся ціхаму слову,
Калі звонкія словы маўчаць.

Не чакаю хвілін бесстаронніх,
Гэту ціхую сілу бяру...
...Падымаюцца лёгкія коні
На старую, як слова, гару.

І сарвецца, зазвоніць падкова,
І пачне перад шчасцем палаць
Тым, што можа звычайнае слова
Нашай звонкай крыві перадаць.

## ЛЕСНІЧОЎКА

Кіруе сонца проста ў неруш
Праз непрыступнасць вершалін,
Вось-вось зачыніць вечар дзверы,
Счапіўшы лапамі ялін.

А ў гуках стомленага бору —
Грымотаў зычныя лады.
Пасля хады няспыннай, скорай
Мяне так хіліць да вады.

У гэтай хаце-леснічоўцы
Я быў не раз. І студня тут,
Вядро старое на вяроўцы
І корба цяжкая, мо з пуд.

А зараз пуста. Не хіснецца
Ручнік ад ветру на сцяне,
Сабака болей не злуецца,
Не рвецца з брэхам да мяне.

Ды заўтра я ў дарогу рушу.
Ты, леснічоўка, выбачай,
Бо вабіць нас не толькі суша,—
І акіян за небакрай...

## ЖНІВЕНЬ

У садзе дыхае глыбока
Трава. І нехта ходзіць тут
Нячутным, нетаропкім крокам,
Шукае ціхі з ценем кут.

На яблык жоўты, збіўшы росы,
Прысеў дыхнуць залётны чмель.
І навастрылі жалы восы:
«Хто гэта ўбіўся ў нашу спель?»

Упарта гушкае арэлі
Зусім малое дзеўчанё.
На дроце ластаўкі паселі,
Глядзяць у светлае акно.

Старому люлька пальцы грэе.
І ў думках тоіцца сакрэт.
А сэрца юнае карцее
У шлях далёкі — белы свет.

* * *

Да парога птушку падпусці,
Што з далёкай пушчы прыляцела.
Белы снег, бялейшы ад прасцін,
Ўсе дарогі ў пушчу перасцеле.

І такога дня яшчэ чакаць,
Як пачне раўчук цячы ад кроплі,
Калі стане цёпла бальшакам
І малым сцяжынкам стане цёпла.

А пакуль на яміны дарог
Снег кладзецца, мяккі, невідушчы,
Прылятае птушка на парог,
І здалёк за ёй цікуе пушча.

* * *

Мой горад, выйдзі на сустрэчу
За акаляючай шашой.
Я шмат гадоў табе пярэчыў
Сваёй вясковаю душой.

Цяпер табе магу паведаць,
Калі прысядзем на траву,
Што ў доме нашым, у суседа,
Гармонік з барыняй жывуць.

І тут, вярнуўшыся з завода,
Жанчыны з нашага двара
Пад вечар галасна заводзяць,
Што недзе «...ўсходзіла зара».

І песні гэтай адгалосак
У грыбны ці ягадны сезон
Падоўгу ходзіць каля вёсак,
А з ім — Заводскі мой раён.

І я цяпер настолькі хворы
На непадзельную любоў,
Што вёска з горадам гавораць
У маім сэрцы між сабой.

* * *

Тут поўнач. Лес. І зоркі ў кронах,
Як у дзявочых валасах...
Так лёгка дыхаеш азонам,
І прападае першы страх.

І не згадаеш, як убачыш
У гэтай цемрадзі начной
Далёкай знічкі след гарачы,
А потым — шлях яшчэ адной.

А гэта лес такі сягоння,
І прыглядзішся пакрысе:
У вецце ўблыталася поўня
І зоркі на зямлю трасе.

А я, акружаны камлямі,
Стаю на абымшэлым пні...
Як я, выглядваюць зямляне
На шчасце зорку ў вышыні.

ЗМЕСТ

Марук Ул.
М 30 Зоркі ў кронах: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1982.— 39 с., іл.— (Першая кніга паэта).
15 к.

З захапленнем піша аўтар пра непаўторную прыгажосць роднага краю, яго гістарычнае мінулае і будучае. Духоўнае багацце нашага сучасніка — тэма многіх вершаў маладога паэта.

М $\frac{4702120200—117}{М302(05)—82}$ 75—82 ББК 84Бел7 Бел2

*Первая книга поэта*

Владимир Антонович Марук

ЗВЕЗДЫ В КРОНАХ

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак А. М. Кірылаў. Мастацкія рэдактары А. М. Малышава, А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар І. М. Паланейчык.

ІБ № 1747
Здадзена ў набор 05.05.82. Падп. да друку 14.07.82. АТ 06553. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 1,46. Ум. фарб.-адб. 2,92. Ул.-выд. арк. 1,29. Тыраж 4000 экз. Зак. 2561. Цана 15 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

